Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА

No 7 9-15 чэрвеня 1995 года ЦАНА 200 рублёў

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

- НАВІНЫ РЭГІЁНА. СЕНСАЦЫІ
- ПРАГРАМА TV НА ТЫДЗЕНЬ
- РЭКЛАМА

# «Я не хацеў забіваць»

**МЯДЗЕЛ. Аднаго тыдня хапіла супрацоўнікам пракуратуры і міліцыі, каб раскрыць жахлівае злачынства, якое ўскалыхнула ўвесь раён. Падзеі разгортваліся наступным чынам. У маладога жыхара Чараўкоў Мікалая Багуцкага прапала жонка Аксана. Аб гэтым ён і заявіў у міліцыю 30 мая. Аказалася, што яе не стала яшчэ тры дні назад. Пайшла ў госці да бабулі ў не такія ўжо далёкія Мікольцы, ды так і не вярнулася. Бачцам бы нехта бачыў 22-гадовую Аксану вечарам 27 мая непадалёку ад аўтобуснага прыпынку «Целякі». Ад яго да Чараўкоў і кіламетра не будзе, аднак маладая жанчына да дому так і не дайшла...**

Вяскоўцы арганізавалі пошукі прапаўшай. І здарылася так, што труп Аксаны Багуцкай з прыкметамі гвалтоўнай смерці, закіданы галінкамі вольхі і лазы, знайшоў на забалочаным участку хмызняку, метрах у шасцідзесяці ад дарогі Мядзел—Нарач, яе свёкар. У міліцыі адразу ўзнікла некалькі версій забойства. Прапрацоўваліся, як кажуць, усе варыянты. Праўда, многія людзі моцна сумняваліся, што злачынцы будуць знойдзены. Чамусьці лічылі, што іх было некалькі. Аднак яны памыліліся.

Дзякуючы ўмелым і аператыўным дзеянням супрацоўнікаў міліцыі пад кіраўніцтвам намесніка начальніка РАУС Мікалая Зімніцкага, хутка выйшлі на падазраваемага, а тры дні таму затрымалі жыхара суседніх Пасынкаў Ц., які прызнаўся ва ўчыненым. Можна дадаць, што ён быў знаёмы з сям'ёй пацярпеўшай. Убачыўшы Аксану на дарозе, пачаў да яе чапляцца. Маўляў, куды спяшаешся, дамоў яшчэ паспееш. Маладая жанчына не пажадала мець з ім ніякай справы, што моцна абурыла нецвярозага Ц. і ён ударыў Аксану. Тая закрычала, пачала клікаць на дапамогу. Тады злачынца схапіў яе за горла, пацягнуў у хмызняк... А цяпер спрабуе апраўдацца: «Я не хацеў забіваць».

Вядома, усе адказы на пытанні па гэтай крымінальнай справе дасць следства, якое вядзе пракуратура, а кропку паставіць народны суд.

*Алесь ДЗЯГІЛЬСКІ.*

ВОДГУЛЛЕ РЭФЕРЭНДУМУ

## Сцяг на кожны дзень

**МАЛАДЗЕЧНА. Як ведаюць чытачы «Рэгіянальнай газеты», рэферэндум у Маладзечне не адбыўся. І таму з-за спрэчных пытанняў адносна легітымнасці старой і новай (якая, дарэчы, яшчэ не зацверджана Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь) сімволікі тут узніклі цікавыя калізіі. Так, напрыклад, над гарвыканкомам адзін дзень можна бачыць бел-чырвона-белы сцяг, а назаўтра — нічога... Потым — зноў сітуацыя паўтараецца. Маладзечанцы тлумачаць гэта тым, што, як кажуць, «прэзідэнцкая вертыкаль» мае сваё меркаванне адносна сімволікі, а гарсавет (цяперашні) і частка гарвыканкома — сваё.**

Як паведамілі нам з дасведчаных крыніц, адзін з адказных работнікаў гарсавета сказаў: «Хай яны здымаюць гэтыя бел-чырвона-белыя сцягі хоць кожны дзень — у мяне іх хопіць надоўга...»

Чым скончыцца супрацьстаянне, цяжка сказаць.

*В. М.*

*P.S. Супрацьстаянне скончылася пазаўчора абедзенным часам. Прыехалі людзі ў спецвопратцы і зрэзалі газавымі рэзакамі пажарную лесвіцу, што вяла па сцяне гарвыканкома наверх да сцяга.*

## Аганьбаванне ці хуліганства?

**МЯДЗЕЛ. Па ўсёй бачнасці, вынікі рэферэндуму камунікаму не даюць спакою ні днём, ні ноччу. У прыватнасці, па пытанню дзяржаўнай сімволікі. Так сцвярджаць дае падставу наступны факт. Не паспелі над будынкам выканкома Нарацкага сельскага Савета падняць новы чырвона-зялёны сцяг, як неўстаноўленыя асобы сарвалі яго і спалілі.**

Відаць, гэта найгоршы варыянт выказвання сваёй нязгоды ў такой справе. Ад учыненага вандалізму на душы адна прыкрасць: калі ўжо мы станем цывілізаванымі? І не так важна, па якіх матывах учынена правапарушэнне: ці гэта проста хуліганства альбо аганьбаванне Дзяржаўнага сцяга.

*Наш кар.*

КУЛЬТУРА

## «Нас слова Купалы да творчасці кліча»

**ЛАГОЙСК. Вялікая колькасць маладых паэтаў Міншчыны «засвяцілася» сёлета на чарговым злёце-семінары на Лагойшчыне. Прыемна, што значную частку ўдзельнікаў літаратурнай тусоўкі складалі нашы землякі. Гэта Юнія Шафарэвіч з Валожына, Алесь Быкаў, Ала Гурло і Святлана Роўда з Мядзеля, Наталля Шаліма з Мінскага раёна, Сяргей Паўлоўскі і Уладзімір Старадуб з Вілейшчыны...**

Дарэчы, вілейчанка Клаўдзія Дубовік чамусьці апынулася ў складзе маладзечанскай дэлегацыі, якая была, бадай, самай прадстаўнічай на семінары. Мяркуйце самі: у калектыўным зборніку, падрыхтаваным да гэтай падзеі ўпраўленнем культуры Мінгарвыканкома і Мінскай абласной бібліятэкіяімя А. С. Пушкіна, ёсць прозвішчы Валянціны Захарэўскай, Алены Ліхадзіеўскай-Краўчанкі, Антаніны Няверы, Святланы Посах, Антаніны Рудзь, Валерыя Маркелава, Таісы Трафімавай.

Гэта яшчэ раз падцвярджае, што наша зямля з яе маладзечанска-вілейска-лагойскай гаворкамі, якія леглі ў аснову сучаснай літаратурнай беларускай мовы, яшчэ не збяднела на таленты.

*В. М.*

ВАЛОЖЫНШЧЫНА

## Франтавікі, аддайце медалі!

**Двое незнаёмцаў спынілі свой матацыкл ля хаты Вікенція Сямёнавіча Бразоўскага, жыхара вёскі Няровы Сакаўшчынскага сельскага Савета. Гэта паважаны на вёсцы чалавек, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, аб чым сведчыць і чырвоная зорачка, прымацаваная да яго хаты маладымі школьнікамі. Раз удзельнік вайны, значыць мае і ўзнагароды — вырашылі візіцёры і з сур'ёзным выглядам паведамілі дзеду, што іх неабходна здаць для праверкі ў райваенкамаце.**

Стары чалавек прывык прымаць усё на веру. Засумнявацца ж у сумленнасці намераў незнаёмцаў больш не было каму: дзеці на рабоце, у двары была толькі ўнучка-школьніца. Так і не ўбачыў ён больш свае, зробленыя крывёй медалі. Як і яшчэ адзін удзельнік вайны з вёскі Вішнева, да якога завіталі тыя ж «прадстаўнікі ваенкамата». Так і хочацца звярнуцца да нашых паважаных ветэранаў: не будзьце такімі даверлівымі, не тыя цяпер часы!

*Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.*

Жыхары Маладзечаншчыны, Вілейшчыны, Мядзельшчыны, Смаргоншчыны, Ашмяншчыны і Астравеччыны!

**Спяшайцеся падпісацца на «РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ»!**

Падпісны кошт на квартал 5 тысяч (для Вілейкі — 5 тысяч 100) рублёў

Ф. РД-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ на РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ**

(індэкс выдання)

Колькасць камплектаў

На 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на (індэкс выдання)

**РЭГІЯНАЛЬНУЮ ГАЗЕТУ**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
| | пераадрасоўкі | руб. | |

На 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## МАЛАДЗЕЧНА: «Як у люстэрка глядзім мы ў гэтыя сцены...»

***З самых розных месцаў рэспублікі, у тым ліку і месцаў, дзе распаўсюджваецца «РГ», сабраліся ў мінулую суботу ў горад выпускнікі Маладзечанскага палітэхнікума, каб разам з ветэранамі, цяперашнімі выкладчыкамі і навучэнцамі адзначыць трыццаціпяцігоддзе гэтай навучальнай установы.***

Старанна рыхтаваліся гаспадары да свята. Былі тут фотастэнды, выпускі святочных газет, выстаўка лепшых работ сённяшніх навучэнцаў. Адметны сцэнарый быў распрацаваны і для галоўнай часткі ўрачыстасцей — вечарасустрэчы пад дэвізам «Як здорава, што ўсе мы тут сёння сабраліся!».

Ушаноўвалі ў актавай зале самых першых работнікаў, выкладчыкаў тэхнікума, што пачыналі ў 1960-м, і, хто потым папаўняў калектыў. Для іх знайшліся і добрыя словы, былі і кветкі. Былі выказванні ўдзячнасці і памяці аб тых, каго няма ўжо сярод жывых, але хто пакінуў добры след у тэхнікумаўскіх справах, у душах і сэрцах маладых сучаснікаў.

Быў таксама святочны загад, у якім былі адзначаны здабыткі і выкладчыкаў, і навучэнцаў як у вучобе, так і грамадскім жыцці.

Быў духмяны каравай ветэранам, гасцям, прыгатаваны сённяшнімі навучэнцамі. І было шмат падарункаў, віншавальных слоў ад гарадскога Савета дэпутатаў, калег з улікова-планавага, Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікумаў, музычнага вучылішча, ад Міністэрства хлебапрадуктаў, ад выпускнікоў розных гадоў, іншых гасцей.

У сваю чаргу і сённяшнія навучэнцы паказалі ў памянёных ужо выстаўках, вырабах, а затым і ў нумарах мастацкай самадзейнасці адрасаваных удзельнікам урачыстасцей, што яны стараюцца прадаўжаць і памнажаць добрыя традыцыі адной з лепшых навучальных устаноў не толькі нашага горада, але і рэспублікі.

***Валянцін ЛІПНІЦКІ.***

## Бывай, выстаўка

***МІНСК. З 6 па 9 чэрвеня ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры праходзіла Міжнародная выстаўка «Беларусь Тэлеком, Інфа, Банк, Офіс 95», прысвечаная вылічальнай тэхніцы і сродкам сувязі. Яна праводзілася пры непасрэднай падтрымцы дзяржаўных структур, сярод якіх — Міністэрства знешніх эканамічных сувязей РБ, Міністэрства прамысловасці, Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь і Асацыяцыя камерцыйных банкаў РБ, Камітэт па навуцы і тэхналогіях.***

У камп'ютэрным летапісу Беларусі гэта вялікая падзея. Міністэрствы-арганізатары паклапаціліся аб удзеле ў выстаўцы не толькі падведамасных ім прадпрыемстваў, але і сваіх замежных партнёраў. Для шматлікіх гасцей была рэдкая магчымасць непасрэдных кантактаў з тымі, хто вызначае нашу дзяржаўную палітыку ў галіне інфармацыі, з кіраўнікамі буйнейшых беларускіх прадпрыемстваў і банкаўскіх структур, вучонымі і спецыялістамі.

Наведвальнікі выстаўкі змаглі пазнаёміцца з прадукцыяй такіх сусветна вядомых фірм, як BOSCH, AT&T, IBM, OLIVETTI, PHILIPS, XEROX, COMPAQ, PACKARD BELL, SONY, MOTOROLA, EPSON, HEWLETT PACKARD і іншых, якія займаюць вядучыя месцы ў вытворчасці тэлекамунікацыйнага і камп'ютэрнага абсталявання.

У рамках выстаўкі праходзіў міжнародны кангрэс «Праблемы развіцця камп'ютэрнай апрацоўкі даных, банкаўскіх сістэм і сродкаў сувязі.

Выстаўка «Беларусь Тэлеком, Інфа, Банк, Офіс 95» — яшчэ адзін крок па ўваходжанню нашай рэспублікі ў сусветныя сеткі інфармацыйнага абмену, да станаўлення на Беларусі сучаснай сістэмы сувязі і фінансавых тэлекамунікацый.

***Аддзел інфармацыі.***

### Анонс

## Як жыве «прэзідэнт» раёна?

Пра гэта вы зможаце дведацца, купіўшы наступны нумар «Рэгіянальнай газеты».

## Есці хочацца, браточкі,

### навет калі ў кішэнях гуляе вецер, а жаданую зарплату кіраўніцтва прадпрыемства затрымлівае з-за няхваткі сродкаў.

Дык што рабіць? — запытае наш разважлівы чытач. — Не адна ты апынулася ў такім становішчы.

Мне гэта вядома. Але сёння я хачу распавясці, якое выйсце знайшла адміністрацыя маладзечанскага радыёзавода «Спадарожнік», каб у яго працаўнікоў не смактала пад лыжачкай.

Тут у сталовай арганізаваны новы від паслуг — выдача абедаў і набыццё прадуктаў у крэдыт. З уласнага вопыту скажу, што гэта вельмі і вельмі зручна. Захацеў, напрыклад, пад'есці — будзь ласкавы, прад'яві пропуск, атрымай квіток і ідзі абедай на здароўе. Потым напрыканцы месяца бухгалтары вылічаць адпаведную суму з твайго заробка. Альбо заходзь у буфет і выбірай на свой густ прадукты, а замест грошай прадаўшчыца запіша на ліст дадзеныя пропуска, астатняе — справа бухгалтараў.

Так што цяпер на «Спадарожніку» не сумуюць. Хоць няма наяўных у кашальках, але затарыць валізкі можа кожны.

***Ірына ШАСТАКОВІЧ.***

## У кафэ — новы гаспадар

***«Ля гасцінца» — вядомае ў Маладзечне і далёка за яго межамі кафэ. У снежні мінулага года яго набыла адна з буйнейшых прыватных прадпрыемстваў рэгіёна «Бамар», якое ўзначальвае А. М. Бажко. На конкурснай аснове фірма дабілася права на арэнду будынка з магчымасцю наступнага выкупу.***

Як паведаміла рэдакцыі загадчыца Л. В. Курыла, пакуль карэнных змяненняў у рабоце кафэ «Ля гасцінца» не адбылося.

— Але ўжо ў бліжэйшы час, — адзначыла Лідзія Васільеўна, — плануецца цясней прывязаць нашы паслугі да больш шырокага кола людзей, што адпачываюць у гарадскім парку. Побач ля кафэ ёсць выдатная пляцоўка. Яна пераабсталёўваецца і тут неўзабаве таты і мамы са сваімі дзеткамі змогуць у спякоту адпачыць, з'есці марожанае, выпіць шклянку прахаладжальнага напою або соку. На днях завозім ужо мэблю і, такім чынам, вось-вось запросім усіх жадаючых.

— А ўвогуле, — заключыла Л. В. Курыла, — у нас шмат ідэй, праектаў наконт перспектыў кафэ. Вядома ж, для іх ажыццяўлення патрэбны грошы. Будзем зарабляць.

***Аддзел інфармацыі.***







****Утульнасць, шырокі асартымент страў, напояў, іх памяркоўныя цэны, ветлівасць і ўвага абслугоўваючага персаналу — адметныя рысы цяперашняга кафэ «Ля гасцінца».***

***Фота Ірыны Карпіцкай.***

### Крымінал

## Раённы суд Вілейкі ў другі раз разгледзеў справу аб забойстве, якое здарылася амаль год назад.

***У той ліпеньскі дзень спадарожныя знайшлі ў лесе непадалёк ад аўтамагістралі Нарач—Мінск знявечанае жаночае цела. Па ўсім было відаць, што труп ляжаў пад гарачымі сонечнымі промнямі не адзін дзень.***

Так яно і было. Прыпыніўшы ўсе перадачы, па каналу беларускага тэлебачання быў паказаны здымак загінуўшай жанчыны. І адразу ж у абласны аддзел унутраных спраў патэлефанаваў мінчанін Аляксандр С., які апазнаў на тэлеэкране сваю жонку, супрацоўніцу валютнага аддзела Ашчадбанка.

Святлана пайшла з дому ў суботу за тыдзень перад гэтым. Пайшла і не вярнулася. Перад гэтым Аляксандр і Святлана моцна пасварыліся. Крыўда змянілася трывогай, калі жонка не вярнулася ні на другі, ні на трэці дзень. Звярнуліся ў аддзел міліцыі, пайшлі па гадалках і экстрасенсах.

А праз тыдзень — вось гэты тэлесюжэт..

Паколькі знойдзены труп быў у Вілейскім раёне, да следства прыступіла следчая брыгада Вілейскай міжрайпракуратуры. Агледзелі месца здарэння. На забітай засталіся некранутымі залатыя завушніцы і ланцужок — адпадала версія аб абрабленні.

Паступова праверылі кола знаёмых Святланы. Не абыйшлі ўвагай і трыццацівасьмігадовага Мікалая, з якім Святлана пазнаёмілася за месяц да гібелі. Яе калегі па працы расказвалі, што Святлана не хавала сваіх сімпатый адносна гэтага прыгожага і ўдачлівага прадпрымальніка на белым «мерсе». За мінулы месяц іх часта бачылі разам.

Праз месяц пасля знаходжання трупа па падазрэнню ў забойстве быў затрыманы намеснік дырэктара аднаго з камерцыйных прадпрыемстваў Мінска. А ў лістападзе народны суд г. Вілейкі пад старшынствам Міхаіла Герлоўскага разгледзеў судовую справу аб забойстве. Вывучыўшы ўсе абставіны забойства Святланы, улічыўшы прызнанне падсуднага ў час папярэдняга следства, суд прызнаў Мікалая Жахаўца вінаватым у здзейсненым злачынстве і прыгаварыў яго да дзевяці гадоў пазбаўлення волі.

На судзе Мікалай цалкам абвяргаў сваё дачыненне да злачынства і з прыгаворам суда не пагадзіўся.

Касацыйную скаргу падсуднага разглядаў Мінскі абласны суд і накіраваў справу на дадатковае расследванне. У маі гарадскі суд Вілейкі разгледзеў справу пасля дадатковага расследвання. Праўда, па жаданню падсуднага састаў суда быў іншым, чым у першы раз. Вынесены ім прыгавор гучаў, аднак, так жа: дзевяць гадоў зняволення ў калоніі строгага рэжыму.

***Мікола КРАЎЧУК.***

